# У дружнай сям'і

Праз прыадчыненыя дзверы пакоя нумар 27 інтэрната даносіўся вясёлы дзявочы смех.

— Дзяўчаткі, давайце паспяваем нашу родную песню, — звярнулася да сваіх сяброўак Надзя Мукасей.

Хутка з пакоя пачалі даносіцца меладычныя гукі захапляючай песні «Ой ляцелі гусі з броду», якую ўпершыню выконвалі разам.

— Бачыце, як добра атрымоўваецца, — прагаварыла Люба Філіпюк; — нават і на сцэне не сорамна было-б выступіць. Асабліва весела бывае ў гэтым пакоі ў выхадныя дні, калі сюды збіраюцца знаёмыя студэнты.

Ёсць тут і аматары шашачнай ігры. Вось і зараз даігрываецца апошняя партыя першынства па шашках сярод жыхароў пакоя.

— Хто выйдзе пераможцам? — гэтае пытанне хвалюе ўсіх сабраўшыхся. Зрабіўшы няправільны ход Надзя Гурын устае і моцна паціскае руку сваёй пераможцы Любе Філіпюк.

— А памятаеце, як вы ўпершыню ігралі ў шашкі, — умяшалася Надзя Мукасей, гэта быў першы вечар нашага знаёмства. І кожная з іх пачала ўспамінаць даўно мінулы, але такі цудоўны вечар, які застаўся ў іх памяці на ўсё жыццё.

— Мы тады да пяці гадзін раніцы не клаліся спаць, — успомніла Зіна Кардаш. — Ды і як было заснуць, калі хацелася як мага хутчэй даведацца пра вашае мінулае.

...Надзя Мукасей, Люба Філіпюк акончыўшы на выдатна сямігодкі, паступілі ў Педагагічны ліцэй. Яшчэ ў сямігодцы яны пачалі цікавіцца беларускай мовай.

А мо'-б пасля сканчэння ліцэя паехаць у Совецкую Беларусь? — аднойчы нерашуча запытала Надзя ў сяброўкі.

...Ды што ты! — махнула рукой Люба, але крыху падумаўшы сур'ёзна дадала:

— Сапраўды нядрэнна было-б. Вось там-бы па сапраўднаму вывучылі беларускую мову.

З гэтага часу думка аб паездцы ў Беларусь не пакідала іх. Атрымаўшы дыпломы выдатнікаў, дзяўчаты падалі заявы з просьбай накіраваць іх для далейшай вучобы ў БССР. Нарэшце яны атрымалі доўгачаканыя лісты, якія давалі ім магчымасць ехаць вучыцца ў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя В. І. Леніна, куды так доўга імкнуліся.

...У дзве гадзіны ночы цягнік, на якім ехалі Надзя і Люба, спыніўся на мінскім вакзале. Сяброўкі яшчэ не паспелі выйсці з вагона, як іх парушыў вялікі натоўп студэнтаў з БДУ. І калі студэнты пачалі дарыць ім кветкі, то сяброўкі крыху збянтэжыліся, а адна з іх, нават, ціха прамовіла:

— Мы прыехалі к вам вучыцца, а не як дэлегаткі.

— У нас на Беларусі ўсіх гасцей сустракаюць аднолькава, з кветкамі, — сказаў малады паэт Ніл Гілевіч. Ад гэтых цёплых і лагодных слоў неяк адразу стала лягчэй на сэрцы ў Надзі і Любы. Моцна ўзяўшыся за рукі з песнямі студэнты вярталіся са сваімі новымі сябрамі ў інтэрнат. З гэтага часу ў Надзі Мукасей і Любы Філіпюк пачалося новае жыццё, мара да якой яны так доўга імкнуліся, стала сапраўдным сённяшнім днём.

Але гэты новы дзень быў найцікавейшым за іншыя, кожная яго гадзіна прыносіла што-небудзь новае, неабходнае для іх жыцця. Як і трэба было чакаць не магло абысціся без цяжкасцей, асабліва запамяталася ім першая лекцыя па беларускай мове. Калі выкладчык пачаў чытаць лекцыю, то дзяўчаты, хоць і былі крыху знаёмы з беларускай літаратурнай мовай, чыстай гаворкі мала разумелі.

— Што будзем рабіць? — разгублена запытала Люба ў сваёй сяброўкі ў часе перапынку.

— Я і сама нявёдаю, — паціскаючы плячыма адказала тая, — раней мне здавалася, што я разумею мову. Памятаеш, як мы чыталі таму старэнькаму селяніну ў нас на Беласточчыне беларускую газету. Ён-жа разумеў нас.

— Чытаць адно, а размаўляць зусім іншая справа, хвалюючыся гаварыла Філіпюк. Лепш і не ехалі-б — мяркавалі яны пасля заняткаў.

— Вось і сёння ў пісьмах вучні педліцэя пыталіся, як ідуць у нас справы, — ціха гаворыць Надзя. — Што ім цяпер напісаць? А напісаць патрэбна, яны-ж чакаюць адказу.

— Хлусіць не будзем. Прыдзецца пісаць усю праўду, хоць яна і не такая прыемная, — зрабіла вывад Люба. Дзяўчаты селі за стол і пачалі пісаць ліст. Неўзабаве ў пакой увайшлі Надзя Гурын і Зіна Кардаш.

— Чаго вы тут сядзіце адны? А мы думалі, што вы на вечары, — запыталіся сяброўкі, падыходзячы да стала.

— А, дык вы пішаце ліст? — заўважыўшы на стале канверт, прагаварыла Зіна Кардаш. Пасля гэтага Зіна і Надзя нахіліліся над пісьмом.

— Вось яшчэ! Цяжкасцей запалохаліся. Не вы адны такія.

Дзяўчатам стала сорамна за сябе, за тое, што яны спалохаліся нават такіх маленькіх цяжкасцей. Яны апусцілі ўніз вочы, стараючыся не глядзець у твар сваім сяброўкам. — Адна з іх павольна працягнула руку, узяла пачатае пісьмо і разарвала на дробныя кавалкі. Моўчкі, але добра разумеючы адна адну, дзяўчаты дружнай сям'ёй накіраваліся на факультэцкі вечар...

Зараз Люба Філіпік і Надзя Мукасей дасканала валодаюць беларускай мовай. У гэтым ім дапамагалі сяброўкі па пакою, з якімі яны жывуць ужо другі год, выкладчыкі і галоўнае — вялікая цяга да беларускай мовы. У вольны ад заняткаў час іх можна часта бачыць у Беларускім Дзяржаўным Тэатры, імя Янкі Купалы, ды яны з вялікай ахвотай глядзяць цікавыя творы беларускіх драматургаў.

Н. ГАНЧАР
Н. ГЛУШКОЎ

г. Мінск
БДУ імя Леніна.

## Пастаноўкі самадзейных тэатральных калектываў

БРЭСТ. (БЕЛТА). — Нядаўна самадзейны тэатральны калектыў абласнога Дома народнай творчасці паказаў гледачам камедыю А. Н. Астроўскага «На бойкім месцы». Ролі выконваюць рабочы чыгуначнага вузла П. Махін, работніца домаўпраўлення Н. Кісялёва, служачы Н. Ладзейнаў і іншыя.

Зараз самадзейныя артысты рыхтуюць да пастаноўкі на сцэне п'есы Янкі Купалы «Раскіданае гняздо» і Б. Шоу — «Прафесія місіс Уорэн».

Шырока вядомы самадзейныя тэатральныя калектывы Баранавіцкага, Кобрынскага, Пінскага гарадскіх дамоў культуры. Каля дзесяці год існуе тэатральны калектыў пры Антопальскім раённым доме культуры. У яго рэпертуары 28 твораў рускіх класікаў, савецкіх і зарубежных драматургаў. Вялікім поспехам у гледачоў карыстаецца спектакль «Васа Жэлезнова» М. Горкага. У новым сезоне ажыццёўлена пастаноўка п'есы А. Арбузава «Шасцёра любімых». Драматычны калектыў Івацэвіцкага раённага Дома культуры рыхтуе да пастаноўкі п'есу «Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона.

Зараз у вобласці працуе больш 500 самадзейных драматычных калектываў.



*Гомельскі абласны дом народнай творчасці праводзіць конкурс на самыя лепшыя працы па жывапісу, графіцы, скульптуры, разьбе па дрэве інкрустацыі, мастацкай вышыўкі і інш. Самыя лепшыя экспанаты будуць дэманстравацца на абласной, рэспубліканскай, усесаюзнай мастацкай выстаўках прысвечаных 40 гадавіне Вялікай Кастрычніцкай Соцыялістычнай рэвалюцыі. Хатняя гаспадыня Зоя Аляксандраўна Серада — майстар мастацкай вышыўкі і аператар ст. Гомель Ірына Нікалаеўна Герасімава падрыхтоўваюць на конкурс вялізны кілім «Слава героям працы».*

*На здымку: З. А. Серада (справа) і І. Н. Герасімава падчас працы над кілімам.*

*Фотахроніка БЕЛТА*
*фота Н. Дзергіна.*



## У гасцях у Гродзенскіх паэтаў

*Нядаўна рэдакцыя атрымала зборнік твораў пісьменнікаў Гродзенскай вобласці пад загалоўкам «Нёман».*

*Унізе змяшчаем некалькі вершаў паэтаў Гродзеншчыны з гэтага зборніка.*

МІХАСЬ ВАСІЛЁК.

### ПІОНЕРСКІ ЛАГЕР

На зялёны грэбень сосен
І на ельнікі густыя
Сцеле сонца пасмы косаў,
У расе іх срэбнай мые.

Бор калыша рэха горна...
На ўзлессі смех знаёмы,
Спеў вясёлы і задорны
У даль нясе шырокі Нёман.

Ён не чуў з вякоў далёкіх
Гэткіх песняў, як сягоння...
Плыць ім век на крыллях лёгкіх,
Чараваць сабою гоні.

Пад шатром блакітны лагер
Сонца хвалямі заліты,
На зямлі дыван засланы
Каляровы, аксамітны.

Не адрозніць, дзетвара, вас
Ад тых кветак на паляне,
Дзе вы будзеце ў забавах
Разам лётаць з матылямі.

Дзе вячэрняй прахаладай,
Як мільёны зор засвецяць,
Перад сном прыемны воды
Будзе плыць з палёў к вам, дзеці!

Юны цвет краіны роднай,
Наша радасць і надзея!
На вас гледзячы, штодзённа
Сівы Нёман маладзее.

ПЯТРУСЬ МАКАЛЬ.

### СВЯТЛО

Запаліць святло патрэбна ў хаце:
Цені наваколле спавілі.
Пасылае да суседа маці
Хлапчука з бляшанкай па вуглі.

І з вуглёў агонь мы выдзьмувалі,
Нібы ў нейкі старажытны час,
Бо запалкі і не начавалі
На закураным камінку ў нас.

Браў старэйшы брат пацёрты томік
Пра ўсходніх дарагіх братоў,
І свяціла ўраз не толькі ў доме,
А і на душы ў хлапчукоў.

Той агонь не гасне прад вачыма,
Хоць ужо нямала дзён прайшло.
Змалку нас само жыццё вучыла,
Як нялёгка здабываць святло.

МІКОЛА АРОЧКА.

* * *

Недзе на зялёнай пойме Ніла
У адлёт сабраліся буслы.
Можа, птахам корму не хапіла,
Можа, ў іх быў выган замалы?

Пэўна, не! У выраі далёкім
Аднаго для птахаў не стае —
Тых дубоў наднёманскіх, высокіх,
Дзе ім трэба гнёзды віць свае.

# Зімою ў вёсцы

Ціха і спакойна ў вёсцы ўзімку. Людзі пахаваліся па хатах. І толькі гусі ды куры вітаюць падарожнага здзіўленым перастрашаным крыкам.

Так было і са мной, калі я адным марозным днём упершыню ўваходзіла ў хату Максіма Гайдука ў Вёсцы Тарнопаль, Гайнаўскага павета.

Заўсёды нейк няёмка адчувае сябе чалавек, калі ўпершыню зайдзе ў чужую хату, упершыню сусртэнецца з людзьмі, якіх дагэтуль не бачыў і не ведаў.

Ды ў Тарнопалі я яшчэ раз мела магчымасць упэўніцца і адчуць, як ветлівым і гасцінным ёсць наш беларускі народ. Дзякуючы гэтым рысам характару, я хутка зусім асвоілася з абставінамі, з новымі для мяне людзьмі і адчула сябе, як у сваёй сям'і. Гаспадыня накарміла мяне ячняй з салам і бульбай з агуркамі, напаіла яблычным сокам, напаліла ў печы і пасадзіла грэць плечы.

Пасля поўдня сабралося некалькі суседак. Маладыя дзяўчаты рабілі штосьці «на дротах», а старэйшыя пралі на калаўротках. Я папрасіла іх паспяваць свае вясковыя песні. Вялікім майстрам у гэтым аказалася даволі высокая, прыгожая жанчына 48 год — Марыя Гайдук. Сваім гучным, высокім голасам зацягнула яна старынную беларускую песню, што ад непамятных часін спяваецца ў вёсцы.

*«Ідзі дожджыку чужою*
*стараною,*
*А я пасею рутаньку над*
*вадою.*
*Расці рутанька дробная,*
*зяленая,*
*Цябе сеяла дзяўчына*
*маладая».*

Падхапілі песню ўсе прысутныя. ...Бурчэў калаўротак, вілася тонкая нітка з кудзелі, лілася — пераліралася песня. Зыкі яе напоўнілі ўсю невялікую, нізенькую сялянскую хатку. З яе слоў і мелодыі складаліся вобразы людзей, якія перад намі жылі, працавалі і гэтыя-ж самыя песні спявалі. Іх песні жывуць. Цяпер іх спяваюць іх унукі і праўнукі і будуць спяваць. Песні раскавзаюць ім як жылі калісь, чаго хацелі і да чаго імкнуліся людзі. Ліліся песні адна за другой пад нізкай столлю сялянскай хаты. Хацелася слухаць іх і слухаць..

— Цётачка — адазваўся малады хлапец — заспявайце тую песню, што бабка ўмее — «Песні мае песні».

Жанчына хвіліну падумала, узялася рукою за лоб і пачала.

*«Ой гора мне, гора,*
*А я ўсё смяюся.*
*Сваёму гору*
*Не паддаюся.*

*І гора мне, гора, —*
*Мушу гараваці, —*
*На такую долю*
*Парадзіла маці.*

*Песні мае, песні,*
*Дзе я вас падзену?*
*Пабяру ў фартушак,*
*Па полі пасею.*

*А як будзе добра —*
*Я вас пазбіраю,*
*А як будзе кепска,*
*То й пазабываю».*

— Як даўно спяваюць гэтую песню ў вашай вёсцы? — запыталася я.

— А, з часоў паншчыны...

Набліжаўся вечар і мне трэба было збірацца дамоў.

Да адыходу цягніка заставалася нямнога часу, а дарогі перада мной — кавалак!

Я развіталася і накіравалася наўспражкі, праз замерзшыя тарнопальскія балоты да чыгункі. Праваднікам быў Валодзя Гайдук — сын гаспадароў, у якіх я была.

У вушах і сэрцы ўсё звінелі пачутыя нядаўна песні.

— Што гэта за бабка, што ведае песні? — успомніла я.

— А, ёсць такая ў вёсцы. Старая ўжо, хіба больш як 80 гадоў мае. Спяваць не можа, але ўсе песні ведае на памяць — расказваў Валодзя.

Мнё зрабілася шкада, што не пабачылася з гэтай разумнай бабулькай. Мо' яшчэ ўбачу калі...

Потым ужо, у цягніку я ізноў успомніла вясковых кудзельніц і іх песні. Хто тварыў гэтыя песні і хто іх перахаваў праз вякі няволі, прыгнёту, праследванняў. Усё гэта зрабіў наш народ! Простыя беларускія людзі.

Мы часта шукаем беларускіх песень. Яны ў вёсках нашых, у сэрцах і памяці простых людзей, якія найлепш патрапілі захаваць і развіваць гэты скарб шматлікіх мінулых пакаленняў.

Нашыя вёскі — гэта невычарпальная крыніца народнага масгацтва, народнай творчасці. З яе чэрпалі сілы, натхненне і тэмы выдатныя творцы нашай літаратуры, грамадскія дзеячы — змагары за шчасце народа. Гэтая крыніца бурліць свежай чыстай вадой і цяпер.

Шкада і немагчыма пакінуць забытай гэтую цудоўную спадчыну народнай культуры ў нашых беларускіх вёсках. Трэба вынесці яе на святло. Паказаць свету. Нельга дапусціць, каб хоць малая частка тых песень, прымавак, казак, прыказак, што жывуць у нашых вёсках, загінула.

Вывучэнне народнай творчасці — гэта першы крок да вывучэння мінулага і сучаснага жыцця нашага народа, пазнання яго жаданняў і патрэб.

В. Л.

З конкурсу збіральнікаў фальклору



*Выжэй змешчаныя выразкі якія прыслаў грам. Сымон Чарнякевіч, з вёскі Макаўка, Гайнаўскага павета.* б.

## Беларускі хор працуе

Праца ў Беларускім хоры ў Беластоку развіваецца ўсебакова. У апошнім часе прыступілі харысты да апрацоўкі мантажу пад загалоўкам «Беларускія вечарынкі». Мантаж апрацавала дырыжор Беларускага хору праф. Людміла Іванаўна Панько. Яна-ж і вядзе з хорам працу па апрацоўцы гэтага мантажу.

З «Беларускімі вечарынкамі», як зрэшты і з цэлай сваёй праграмай, Беларускі хор будзе выязджаць у нашы вёскі, каб і сяляне пачулі прыгожае беларускае слова, беларускую песню і танец.

в. л.

## Ужо хутка выступіць Беларускі Тэатр

Беларускі Тэатр у Беластоку рыхтуе да пастаноўкі п'есу «Пярэстая Красуля» — на беларускай мове. Як нас інфармуе рэжысёр тэатра грам. Кавальчук, да палавіны студзеня 1957 г. п'еса будзе гатовая.

## „З'ЯВА"

Адзін салдат ішоў дамоў. Да дому было яшчэ далёка, а ноч ужо набліжалася, вось ён і рашыў пераначаваць у суседняй вёсцы. Зайшоў у хату і пытае, ці можна пераначаваць. Жанчына (яна была толькі адна ў хаце) адказала, што ў яе ў хаце заўсёды штосьці лякае. Салдат застаўся. Ён не баіцца нічога, ён толькі гадоў прабыў у арміі. Жанчына згадзілася і палажыла салдата каля печы. А на печы стаяла дзежа з рашчынай. На печы было цёпла, хлеб пачаў падымацца і шыпець. Салдат учуў гэта і кажа: «Шыпі сабе, шыпі, а я цябе не баюся».

Хлеб падняўся высока, выйшаў з берагоў дзежы, адарваўся і... упаў на галаву салдата. Салдат саскочыў з лаўкі і пачаў уцякаць у куток. А ў кутку стаяла качарга. Салдат наступіў на адзін канец, а другі стукнуў яго па ілбу. Тады салдат кінуўся ў дзверы. І тут яго нешта цягне за шынель. Яшчэ страшней стала. Ён дастаў з кішэні нож і адрэзаў кусок шыняля. Шынель быў прыцісныты дзвярыма, а салдат думаў, што гэта трымае яго якаясці «з'ява». Салдат «вызваліўся» ад гэтай «з'явы» і пайшоў дарогаю далей.

В. КАРПЮК
Зубава.

---

БАЛЕСЛАЎ МАНКЕВІЧ.

# Гутаркі аб мове

## Гутарка 6

Сягоння мы разгледзім некаторыя прыстаўкі і іх напісанне, складаныя словы і правілы пераносу слоў.

### ПРЫСТАЎКІ І ІХ НАПІСАННЕ

Прыстаўкі *аб-, ад-, над-, пад-, перад- (прад-,)* пішуцца нязменна, незалежна ад таго, ці слова, да якога яны прыстаўляюцца, пачынаецца звонкім ці глухім зычным: *абвіць, адкінуць, надпісаць, падказаць, перадвыбарчы.*

У прыстаўках *з-, уз-, без-, (бяз-), раз , цераз-,* калі яны стануць перад глухімі зычнымі *к, п, с, т, ф, х, ц, ч, ш,* — *з* пераходзіць у *с: скінуць, усход, расказаць, бяскрайні, цераспалосіца.*

Перад галоснымі і звонкімі зычнымі *з* не змяняецца: *з'есці, зварыць, раз'ехацца, разбіць.*

У прыстаўках закончаных на зычны, калі яны стануць перад словам, якое пачынаецца двума ці больш зычнымі або зычным і адасобленым ад яго галосным *е, ё, ю, я,* паяўляецца галосны *а.* Тады атрымліваюцца прыстаўкі *аба-, ада-, пада-, нада-, раза-, уза-: адабраць, разарваць, разальецца; разаб'ецца.*

Побач прыставак *з-, за-* ў беларускай мове ўжываюцца яшчэ прыстаўкі *с-, са-: сэканоміць, сарганізаваць, сабраць, сагнаць.*

Трэба тут заўважыць, што змена прыстаўкі *з* на *с* змяняе значэнне слова. Для прыкладу параўнайце словы: *забраць — сабраць, загнаць — сагнаць, загнуць — сагнуць.*

Калі прыстаўка канчаецца на зычны, а слова, з якім яна злучаецца, пачынаецца з *і* то замест *і* пішацца і вымаўляецца *ы: ішоў — падышоў, адышоў; іграць — сыграць, разыграць.*

Калі прыстаўка канчаецца на галосны, а слова пачынаецца з *і,* то *і* гэтага слова пераходзіць у *й: ісці — зайсці, пайсці, выйсці, прыйсці; іграць — зайграць, выйграць.*

Некаторыя словы з прыстаўкамі *пры-, вы-* ўжываюцца і без *й: прышоў, вышаў,* але *пайшоў.*

Аднак, калі *і* ўтварае самастойны склад, то яно захоўваецца: *заікацца, заірдзецца.*

### СКЛАДАНЫЯ СЛОВЫ.

Адным са спосабаў утварэння новых слоў з'яўляецца складанне кораняў.

Словы, утвораныя з двух або больш кораняў, называюцца складанымі словамі, напрыклад: *лістапад, садавод, севазварот.*

Пры складанні ў адно слова, корані пераважна злучаюцца галоснымі *о, е,* якія ў залежнасці ад націску могуць пераходзіць у *а, я;* напрыклад: *кінакарціна, землечарпалка, жалезабетон, земляроб.*

Часам складаныя словы ўтвараюцца без злучальных галосных: *Ленінград, насценгазета, поўметра.*

Многія складаныя словы маюць два націскі: асноўны на другой частцы слова і пабочны на першай частцы слова. Напрыклад у слове *землекарыстанне* асноўны націск падае на склад *-та-,* а пабочны на склад *зе-.*

У такім выпадку кожная частка слова асобна падлягае правілу аб аканні і яканні (яканне — пераход *е, ё, ў я)* у залежнасці ад таго, дзе падае націск; злучальныя галосныя адносяцца тады да першай часткі слова: *сярэдневяковы, боездольны, своечасовы.*

Такія складаныя словы, у якіх другая частка скарочана, як *земляроб, садавод,* маюць толькі адзін націск.

У складаных словах з коранем *поў-* перад назвамі гарадоў, частак свету ставіцца злучок: *поў-Мінска, поў-Афрыкі.*

Скарачэнні тыпу *СССР, БССР* чытаюцца назвамі літар: *эс-эс-эс-эр, бэ-эс-эс-эр* (у вымаўленні выходзіць *эсэсэсэр, бээсэсэр*). Калі ў такім скарачэнні ёсць галосны, тады з такога скарачэння ўтвараецца слова, напрыклад *ТАСС* (Тэлеграфнае агенцтва Совецкага Саюза) вымаўляецца *тас.*

### ПЕРАНОС СЛОЎ.

Пішучы, часам трэба частку слова перанесці ў другі радок. Як гэта зрабіць? На гэта існуюць асобныя правілы.

Перш за ўсё слова пераносіцца па складах: *па-ра-ход, па-лі-ты-ка.*

Адна літара ніколі не пакідаецца ў канцы радка і не пераносіцца ў другі радок, напрыклад: слова Арменія нельга перанесці А-рменія або Армені-я; яго можна падзяліць так: Ар-менія або Арменія.

Літары *й, ў, ь* не аддзяляюцца ад папярэдніх літар: *зай-цы, галоў-ка, коль-кі.*

Калі спалучэнні літар *дз, дж* абазначаюць адзін гук, то іх раздзяляць нельга: *ха-дзіць, ха-джу.*

Дзве аднолькавыя зычныя пры пераносе слова раздзяляюцца: *збож-жа, калос-се, вясен-ні, адзінац-цаць.*

Аднаскладовая прыстаўка не раздзяляецца: *пад-весці, рас-казаць, ад-даць, пад'ехаць.*

Пры пераносе літары *ы* нельга аддзяляць ад прыстаўкі; слова *падыход* можна дзяліць наступным чынам: *пады-ход* або *па-дыход.*

Пачатковую карэнную зычную нельга пакідаць пры галоснай прыстаўцы; трэба пераносіць *пада-гнаць* або *па-дагнаць, раза-браць* або *ра-забраць.*

Пры збегу зычных дапускаецца вольны падзел: *вяс-на, вя-сна; люб-лю, лю-блю; сяс-тра, ся-стра.*

### ПРАКТЫКАВАННЕ.

Выпішыце тыя словы, якія можна пераносіць, дзелячы іх на часткі для пераносу:

Дзень, падарожжа, падземны, падрыхтоўка, стайня, зялёная, арганізацыя, ясень, ездзіць, дрожджы, стагоддзе, гаротны, вялікі, морква, расстаноўка, падпісчык, аконны, бярэзнік, спісванне, расказваць, радзіма, лялька.






— Разбудзі мяне, калі я захачу пахмяліцца.
— А як я пра тое ведаць буду?
— Ты мяне толькі разбудзі.

## ЗІМА

*З выпадку зімы, прыпомніўся, верш Кальцова: «Зіма».*

*Крестьянин торжествуя*
*На санках обновляет путь.*
*Его лошадка снег почуя*
*Плетется рысью как нибудь».*

*Вось, дарагія чытачы, разбярэм з Вамі гэты верш. Праўда, разабраць верш па костачцы як курку нельга, але па строфах мы разбярэм яго і дойдзем да таго, дзе закапаны сабака. «Зіма»... Зразумела, супраць зімы нічога не маем, наадварот, некаторым, асабліва дзецям, зіма вельмі падабаецца. Нездаволены зімой толькі работнікі апаловых складаў, дзе яны стараюцца зменшыць цяпло людзям, даюць горшага гатунку вугаль, але гэта да вершаў не адносіцца.*

*«Крестьянин торжествуя»... Зараз, зараз, які селянін? Калі аднаасобнік, то яшчэ зарана яму святкаваць, вядома, сам чалавек нічога не зробіць. Калі гэты селянін аб'яднаны ў сельгаскааператыве, тады іншая справа, можна святкаваць, калектыўная праца дае большыя рэзультаты. Толькі тут мы павінны прыпомніць, што сельгаскааператывы Беласточчыны ўраджай ужо сабралі, а з членамі кааператыва яшчэ не разлічыліся. Таму селяніну ў кааператыве няма як святкаваць.*

*«На санках обновляет путь»... О, цяпер ужо мы зразумелі свята селяніна. У нас вырабляюць аўтамабілі, паравозы, самалёты, а тэхналагічны працэс вырабу санак яшчэ не асвоены. Цяжка купіць сані. Ясна, што калі селянін дарваўся да саней, то і святкуе.*

*«Его лошадка снег почуя»... Ага! Інстынктоўнае адчуванне не забыта ў кааператыўнага каня.*

*«Плетётся рысью как нибудь»... Ну, гэта ўжо абыякавыя адносіны да сваіх абавязкаў, а мо' конь не кармлены і таму «плетётся как нибудь»...*

*Як бачыце, дарагія чытачы, пры дапамозе логікі мы і дайшлі да таго, што скрываецца за строфамі верша.*

*Трэба толькі здзіўляцца Кальцову (памёр у 1842 годзе), якім чынам ён змог у сваім вершы «Зіма» прадбачыць цяперашнія часы.*

Дзядзька Лявоны

## Скуткі катару

— Вось клопат з гэтым катарам!

— Паверце, ужо трэція порткі змяняю сягоння.

— Ці не памыляецеся? Хіба хустачку не порткі?

— Не, не... порткі, бо што ні чхну — то гузікі адрываюцца.

## Здольны дапаможнік

Машыністы: — Што гэта сёння з цягнікам? Ледзь - ледзь праехалі першы пад'езд.

Новы качагар: Каб я ўвесь час не трымаў тармазоў, — то мы-б напэўна назад скаціліся.

## Клапатлівы

— Чуеш, Хілімонка, ідзі хутчэй прынясі мяшок солі!

— Што ты, баба, здурэла? Навошта-ж табе цэлы мяшок, гэта-ж нам на два гады хопіць...

— Ты дурны, я сягоння чула, што яшчэ абы — як будзе!...

— Перастань, баба, я-ж цяпер слухаў радыёкропкі, і ведаеш што гаварылі? Што такім бабам, як ты, будуць саліць языкі. Вось тады ўжо зусім нельга будзе з табою вытрымаць!

## Інспектар і хлапец

Школьны інспектар, едучы праз вёску, запытаў хлапчука — школьніка, дзе дарога ў школу? Хлопчык дарогу паказаў. На другі дзень інспектар паклікаў яго да карты і запытаў, як ідзе дарога ў Варшаву. Хлапец доўга глядзеў на карту, аж нарэшце прамовіў:

— Пан інспектар не ведаў дарогі ў школу, а хоча, каб я ведаў дарогу ў Варшаву.

## Між доктарамі



Віншую калега, віншую ўдачы гэтай скамплікаванай аперацыі. Мне здаецца, што яна была зроблена якраз у пору.

— І мне так здаецца! Назаўтра пацыент і так быў-бы здаровы...

## ПРЫКАЗКІ і ПРЫМАЎКІ

**Абы хлеб, то зубы будуць.**

**Хлопец на каня сядае, а дзеўка родзіцца і паспявае яму.**

**Не хракай на нікога, каб на цябе не хракалі.**

**На хрысьцінах усе кумы, на вяселлі ўсе сваты, а ў карчме ўсе браты.**

## РАДЗІМА МАЯ ДАРАГАЯ

(Для саліста і жаночага хору з ф-но)

Словы А. Бачылы Музыка У. Алоўнікава



Радзіма мая дарагая,
Ты ў шчасці жаданым жыві!
Я сэрцам табе прысягаю
У шчырай сыноўняй любві.

На рэках шырокіх і нівах,
Заводах, будоўлях, — наўсцяж
Працуе народ наш руплівы
І край узвышаецца наш.

Навокал жыццё расцвітае —
І песня ўзлятае сама:
Мне лепей ад роднага краю
Нічога на свеце няма.

Чужое зямлі нам не трэба
Пачуцці ў нас сёння адны:
Мы хочам каб мірнае неба
Не знала пажараў вайны.

Мы дружбы народам жадаем
І шчырай братэрскай любві.
Радзіма мая дарагая,
Красуйся і ў шчасці жыві!

**Падумай — Адгадай**

## ЗАГАДКІ — ЖАРТЫ

На лаўцы сядзяць 2 дачкі, 2 маткі і бабка з унучкай. Колькі разам асоб?

* * *

Па вуліцы ідзе дзіця і вельмі плача. Падыходзіць да яго кабета і пытаецца: «Чаго ты дзецятка так плачаш?»

Дзіця адказвае: Я плачу таму, што я не сын свайго бацькі!

Кім было дзіця?

* * *

Колькі гарошынак увойдзе ў чайную шклянку?

* * *

Без чаго не можна спячы хлеба?

## АДГАДАНКА




Раскіданыя часткі слоў складзеныя ў адпаведным парадку даюць развязку — ведамую ўсім прымаўку М. Горкага.

Сярод чытачоў, якія развяжуць і прышлюць адказ да 10.I.57 г. на гэтую адгаданку, будзе разыграна 10 кніжных узнагарод.

## АГАФОН АБРОТКА ПАДГАТАЎЛЯЕ




*Агафончык да рэбятаў:*
*— Дарагэнькі, хутка свята,*
*Елка, Новы год, падаркі,*
*Гатовіцца трэба шпарка!*

*Адны ўзяліся шчыра*
*За чырвоную паперу.*
*Коля разам ўдвох з сястрою*
*Клеяць дзеда з барадою.*

*А другія — Зося, Грышка*
*Хутка грэблюцца ў кніжках.*
*Трэба песень, добрых вершаў,*
*Кожны хоча быці першым.*

*Агафон у БГ-КТ-а*
*Пытае сакратар*
*— Хутка Новы год — скажэце,*
*Ці ў вас ёлка будзе дзецям?*

Галоўны рэдактар ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ

Орган Беларускага грамадска - культурнага таварыства ў Польшчы Адрас рэдакцыі гор Беласток, вул Маніфесту Ліпповага 25, тэл 25-89 Умовы падпіскі на 6 месяцаў — 15 зл. 60 гр., на 3 месяцы — 7 зл 80 гр Падпіску прымаюць усе паштовыя ўстановы, пісьманосцы Konto NBP I Oddz. Miejski Nr 102-7-161 w Białymstoku. Prenumeratę za zleceniem wysyłki zagranicę przyjmuje PKWZ „Ruch" Warszawa, Aleje Jerozolimskie 119, tel 8-05-05, konto PKO 1-6-100024 Warszawa. Cena prenumeraty zagranicę: kwartalnie 10,15, półrocznie 20,30, rocznie 40,60. Паліграфічнае прадпрыемства ў Беластоку Т-7-1935